# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі:**

**"The Voice of the Church", 254 Wyckoff St., Brooklyn, N. Y., 11217**

**Tel.: ULster 2-7552** **Цана 50 цэнтаў**

**№ 31** **КАЛЯДЫ, 1970** **ГОД 16**

**БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ**
**СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ**

*Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манаства, і ўсіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых*

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*„ХРЫСТОС УВАСКРОС ізь мертвых,*
*і нам ЖЫЦЬЦЁ дараваў".*
(Зь Вялікоднага Трапара).

**УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!**

Так, запраўды ХРЫСТОС УВАВСКРОС, і Сваім Уваскрасеньнем адкрыў нам новы шлях жыцьця. Слаўны шлях, бо ня толькі шлях жыцьця праведнага, сьветлага, а таму й поўнага дабра, праўды, любові й радасьці тут на зямлі, але й жыцьця вечнага: радасьці бязьмежнае й бясконцае на Небе! Вось чаму душы ўсіх пабожных людзей, сьпяваючы Гімн Уваскрасеньня Хрыстовага: ХРЫСТОС УВАСКРОС ізь мертвых, сьмерцю сьмерць паканаў, і тым што ў грабох жыцьцё дараваў, захапляюцца, напаўняюцца радасьцю незямною! Так, цялесная сьмерць ужо ня страшная для нас, яна ўжо ня мае ўлады над намі! Наш гроб ужо перастаў быць для нас гробам зьнішчэньня, безнадзейнасьці, бо сьмерць ужо пераможаная, мы ўжо несьмяротныя! Хрыстос Сваёю сьмерцю й Уваскрасеньнем падараваў нам ужо жыцьцё вечнае ў Валадарстве Славы Яго ў Нябёсах.

І гэта радасная для нас запраўднасьць. Аб гэтай радасьці нашай сказаў ужо натхнёны Духам Сьвятым прарок Осія так: „Сьмерць, дзе тваё ждала? Пекла, дзе твая перамога?" (Ос. 13, 14). А сьв. вярхоўны Апостал Павал кажа нам: „Ці я не Апостал? Ці я ня бачыў Іуса Хрыста, Госпада нашага?" (1 Кар. 9, 1). А ён бачыў

Хрыста ўжо пасьля Ягонага Уваьнясеньня на Неба. Вось-жа Хрыстос зьяўляўся яму, вучыў яго, адкрываў яму вялікія Тайны Божыя адносна нашага жыцьця на зямлі й на Небе. І сьв Апостал Павал з свайго боку адкрывае нам гэтую бязьмежную Любоў і Ласку Божую да нас. У сваім Пасланьні да Карынцянаў (1 Кар. 15, 51-54) ён кажа: „Вось адкрываю вам Тайну: ня ўсе мы памрэм, але ўсе пераменімся. Зьнячэўку, у імгненьні вока, пры апошняй трубе, бо затрубіць, і мёртвыя ўваскрэснуць нятленнымі, і мы жывыя пераменімся, бо тленнаму трэба апранууца ў нятленнасьць, і сьмяротнаму ў несьмяротнасьць, паводле сьв. Пісаньня: Праглыненая сьмерць перамогаю" (Іс. 25, 8).

Так, ХРЫСТОС УВАСКРОС, сьмерць перамог, і сьв. Апостолы, пабачыўшы Яго пасьля Уваскрасеньня, цаною жыцьця свайго panесьлі Сьвятло Праўды, Любові й Радасьці, сьв. Евангельля Хрыстовае, ува ўсе канцы зямлі. Яны збудавалі Сьв. Царкву Хрыстовую, якую ніякія сілы пякельныя не перамогуць, бо на чале Яе стаіць Сам Хрыстос, Бог і Спас наш, і Яна стала дабравесьціць нам Праўду, Любоў і Ласку Яго да нас, нашую несьмяротнасьць, нашае жыцьцё вечнае!

Але, ЗАПРАЎДЫ ХРЫСТОС УВАСКРОС, сьмерць перамог! Таму такая вялікая радасьць нашая на Вялікдзень, калі нашая Сьв. Царква натхнёна сьпявае: Нябёсы няхай слаўна весяляцца, зямля няхай радуецца, няхай увесь сьвет бачаны й нябачаны сьвяткуе, бо ХРЫСТОС УВАСКРОС, радасьць вечная! У гэтае Сьвята над Сьвятамі, у гэтым часе нашае незямное радасьці й надзеі на сваё уваскрасеньне, мы маем Неба на зямлі, мы разам з Ангеламі ўжо жыхары Яго!

Зь вялікае Ласкі Божае да нас мы ўжо 20 гадоў сьвяткуем Вялікдзень у сваёй роднай, любай, Сьв Б. А. П. Царкве, таму тым болей радуемся, бо Яна аснова нашае Вольнае й Незалежнае Беларусі! Нажаль, гэтае сонца радасьці нашае зацямняюць хмары: у нашай любай Беларусі гэтае Сьвята над Сьвятамі заваленае цяжкім камянем багаборцаў. Яна, нашая любая Радзіма, усё яшчэ ў гробе. Аднак, няма месца смутку ці роспачы, бо мы ведаем, што наш пабожны Народ у сэрцах сваіх разам з намі радасна сьвяткуе Уваскрасеньне Хрыстовае ў поўнай надзеі, што блізкі ўжо час ягонага вызваленьня з бязбожнае няволі: уваскрасеньня да новага, вольнага, радаснага й шчасьлівага жыцьця нашае любае пакутніцы Маці Беларусі! Бо: ХРЫСТОС УВАСКРОС, уваскрэньне й нашая Беларусь! О, тады на Вялікдзень зыйдзе Неба на Радзіму нашую, і ўвесь наш Народ у радасьці незямной адзінымі вуснамі й адзіным сэрцам натхнёна ўсклікне: ХРЫСТОС УВАСКРОС! ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! Уваскрос, сьмерць паканӑў і нам жыцьцё вечнае дараваў! АЛІЛУЯ!

І ў гэтай Вялікоднай радасьці, трыюмфе Неба й зямлі, вітаем



вас, усечэсныя Айцы, любыя Браты й Сёстры, і ўвесь наш Вялікі Беларускі Народзе, зь Вераю, Любоўю й Надзеяй, як вашыя Архіпастыры, зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам над Сьвятамі, нашаю перамогаю, славаю й спасеньнем: УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ — ВЯЛІКАДНЕМ!

Хрыстос, Бог і Спас наш, Каторы Сваёю сьмерцю й Уваскрасеньнем падняў нас ад зямлі да Неба, і там прыгатаваў месцы нам, няхай багаслаўляе вас, у вашай добрай працы вас узмацняе, ад усякага зла абараняе, і надзеяй напаўняе, што блізкі ўжо час, калі мы будзем славіць Яго, Госпада нашага, у сваёй Вольнай і Незалежнай Беларусі! Таму, дарагія дзеці нашыя, радуйцеся, узаемна абыймаеце сябе, абдорвайце ўсіх, навет няпрыяцеляў сваіх, сьвятым Вялікодным пацалункам, бо: ХРЫСТОС УВАСКРОС, радасьць вечная!

Ласка, Супакой і Благаславенства Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІН.

Дана Году Божага 1970
месяца сьнежня
Аўстралія-Амэрыка-Канада

✠ **Сьмірэнны Архіепіскап СЕРГІЙ**
✠ **Сьмірэнны Архіепіскап ВАСІЛЬ**
✠ **Сьмірэнны Епіскап АНДРЭЙ**
✠ **Сьмірэнны Епіскап МІКАЛАЙ**

## ЮБІЛЕЙ БАПЦ У НЬЮ ЁРКУ
## 20-ыя ЎГОДКІ ХІРАТОНІІ УЛАДЫКІ ВАСІЛЯ

Урачыстасьць гэтая адбылася ў сьвежа й прыгожа памаляваным Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нядзелю, 21-га сьнежня 1969 г. Сьв. Літургію адслужыў Юбіляр, Архіепіскап Васіль у асысьце Айцоў: Васіля, Віктара й Дыякана Карпа. Сабор быў запоўнены вернікамі ня толькі зь Нью Ёрку й ваколіцаў яго, але й зь Нью Брансвіку. Усе горача дзякавалі Госпаду Богу за вялікую Ласку Яго да нас: за Юбілей нашае Сьв Б. А. П. Царквы, і аб гэтай Ласцы Божай да нас натхнёна гаварыў Уладыка Васіль у сваёй пропаведзі. Прыгожа пяяў Царкоўны Хор, узмоцнены харыстымі зь Нью Брансвіку, пад кіравецтвам Сп. Б. Данілюка. У часе Малога Выхаду Уладыка Васіль узнагарадзіў а. Васіля Кендыша Скуфіёю, а ўсе ўжо пабачылі новы пазалочаны жэзл ля Іканастасу: падарунак Матушкі М. Войтэнка самому Уладыцы. Пасьля Сьв. Літургіі быў адслужаны Малебен Падзякі Богу, а ў канцы яго а. Віктар апавясьціў Многалецьця Уладыцы Васілю, а. Васіль Многалецьця нашай Св. БАПЦаркве й Сабору Епіскапаў Яе, а Уладыка Васіль нашаму шматпакутнаму Народу Беларускаму, пасьля чаго Хор прасьпяваў наш царкоўны гімн „Магутны Божа".

Пасьля Багаслужбаў усе прысутныя, каля 150 асобаў, сабра-

ліся у нашай прыгожай царкоўнай залі на ўрачыстую сьвяточную бяседу. Старшыня Царкоўнае Рады, Сп. інж. М. Гарошка, прывітаўшы Юбіляра, Духавенства й усіх прысутных, папрасіў Уладыку прачытаць Малітву. Усе прысутныя прасьпявалі Малітву „Цару Нябесны" і Уладыка Васіль багаславіў страву на сталох.

Зараз-жа пасьля гэтага прыхажанкі мясцовае Парафіі: Сп-ні Верабей, Данілюк, Яновіч і Курыла ў знак пашаны й прывітаньня паднясьлі Уладыцы прыгожы шыпшынавы букет кветак, а ўсе прысутныя прасьпявалі яму „Многія лета". Пасьля яны некалькі разоў сьпявалі яму гэтае пажаданьне й гэтак: „Сто год"і і „Многа год".

Неўзабаве Сп. інж. М. Гарошка перадаў вядзеньне бяседы а. Васілю, а сам сказаў кароткае, але вельмі зьмястоунае слова. Тут ён, між іншым, казаў: Падзеі нашага жыцьця йдуць непрыкметна, мы іх амаль не заўважаем, мала цэнім, і толькі па пэўным часе бачым, што яны гістарычныя, і што мы самі ўдзельнікі й творцы іх. Што было ў нас звыш 20 год таму? Была вялікая рэлігійная й нацыянальная бяда. Мы страцілі наш гонар і нашую славу: нашую Сьв. БАПЦаркву, епіскапы якое здрадзілі Яе й наш Народ, перайшлі да нашых ворагаў. Неабходна было дзеяць, і то хутка й рашуча. Неабходна было знайсьці чалавека, дастойнага кандыдата ў Епіскапа.

І тут Аднаўленьне нашае Сьв. БАПЦарквы, пасьля пераходу Яе епіскапаў да Расейскае Зарубежнае Царквы на чале з Архіепіскапам Бэнэдыктам, цесна зьвязана з асобай сяньняшняга Юбілянта, Высокапрэасьвяшчэньнейшага Архіепіскапа Васіля, у сьвецкім жыцьці Інжынера Уладзіміра Тамашчыка. Інж. Ул. Тамашчык закончыў найвышэйшыя студыі на Палітэхніцы ў Празе Чэскай. Там яго найбольш цікавіла агро-хэмія й біялёгія. Выдатныя здольнасьці й веды ў гэтых галінах стварылі для яго вельмі спрыяльныя ўмовы для навуковае працы, тым болей, што зараз-жа па заканчэньні студыяў Інж. Ул. Тамашчык быў запрошаны Праф. Білкам працаваць у ягоным Інстытуце Зоолёгіі ў якасьці асыстэнта.

Бясспрэчна, інж. Тамашчыка чакала бліскучая кар'ера навукоўца. Аднак, ягоны асабісты жыцьцёвы шлях быў іншы, а гэта шлях запярэчаньня свайго асабістага жыцьця для свайго бліжняга, а перадусім для свайго паняволенага, пакутнага Беларускага Народу. Вось гэтае служэньне Уладыка Васіль і ўважае найшчасьлівейшымі хвілінамі свайго жыцьця.

І ня дзіва, што для ратунку нашае Сьв. Б. А. П. Царквы Бог і паслаў нам яго. І ён зразумеў гэты свой сьвяты абавязак, прыняў просьбу Беларускага грамадзтва й Волю Божую, стаўся манахам. Але, каб належна кіраваць царкоўным жыцьцём у сане Епіскапа, ён не задаволіўся сваёю высокаю сьвецкаю навукаю, і вырашыў



здабыць таксама высокую багаслоўскую навуку, што й зьдзейсьніў, атрымаўшы Дыплём магістра Багасловія ў Украінскай Багаслоўскай Акадэміі ў Мюнхене.

І сталася. Роўна 20 год таму ён, ужо Архімандрыт Васіль, 18-19-га сьнежня 1949 году, у Беларускім лягеры Розэнгайм, у Нямеччыне, Саборам Епіскапаў Сьв. УАПЦарквы ўрачыста быў хіратанізаваны ў Епіскапа Сьв. БАПЦарквы. Многія з нас былі сьветкамі гэтае слаўнае ўжо гістарычнае падзеі, радаваліся й дзякавалі Богу. На другі дзень пасьля ягонае Хіратоніі адбылася 1-ая Сэсія Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў Сьв. БАПЦарквы з удзелам Сакратара Сьвяшчэннага Сыноду Епіскапаў Сьв. УАПЦарквы сьв. п. Епіскапа Платона, і на гэтай Сэсіі было ўрачыста абвешчанае кананічнае Аднаўленьне Сьв. Б. А. П. Царквы з Главою Яе Архіепіскапам Сергіем і Сакратаром Епіскапам Васілём.

Мы тады радаваліся, яшчэ больш радуемся цяпер, бо 20 гадоў добра сьветчаць нам, што мы ня толькі ўтрымалі гэты наш скарб і гэтую нашую славу: Сьв. Б. А. П. Царкву, але й паважна разбудавалі, і ўзмоцнілі Яе так, што ўсе спробы ворагаў нашых разбурыць гэтую нашую духовую цьвярдыню засталіся надарэмнымі. І будуць надарэмнымі, бо ўсе мы тут гатовыя аддаць жыцьцё сваё за Яе. Слава нашаму Юбіляру, Архіепіскапу Васілю, слава нашаму Духавенству й усім вам, супрацоўнікам яго!

Пасьля а. Віктар гаварыў прыблізна так: Ісус Хрыстос, пасланы Богам Айцом на спасеньне роду людзкога, распачаў Сваю Місію на 31-ым годзе Свайго жыцьця. Праз тры гады Ён быў прададзены, засуджаны, укрыжаваны, памер і Уваскрос. Сталася гэта дзякуючы тагачасным юдэям. Чаму? Таму, што яны мелі сваю, іншую думку мэсіянізму, пасвоему разумелі Біблію. У нас няма свайго такога мэсіянізму, свае асобнае Біблії. Таму Бог не забыўся аб нас, апякуецца намі, і пасылае нам людзей з выразным прызначаньнем выкананьня Волі Яго, каб Ягоная „воля як на Небе, так і на зямлі" жыла й сярод нашага Народу.

Гэта ня значыць, што калі астралёгі не знайшлі зоркі над хатаю, у якой нарадзіўся наш Уладыка, дык ён ня ёсьць чалавекам Божым. Тут мы бачым выразную Волю Божую, бо, вось, у нас паўстала пякучая патрэба мець свайго Епіскапа для Аднаўленьня свае самастойнае Праваслаўнае Царквы, то знайшоўся адзін такі, які самаахвярна ўзяўся за справу, і выконвае гэтае сваё Божае пасланьніцтва ўжо 20 гадоў, і выконвае пахвальна.

Ён ёсьць пасланы нам Богам правадыр душаў нашых для вызваленьня нас з цемры духовага паняволеньня, здабыцьця намі самапашаны, каб і мы „занялі свой пачэсны пасад між народамі" у Валадарстве Божым.

Сам Хрыстос меў многа цяжкасьцяў, перашкодаў. І ў Ягоныя

часы не бракавала злыдняў, багаборцаў. Собскі вучань прадаў Яго. Тым болей наш Уладыка мае многа цяжкасьцяў, перашкодаў, але на 21-ым годзе ягонае дзейнасьці мы з радасьцю прызнаем яму заслугу ў пасьпяховым выконваньні ім свайго пасланьніцтва Божага, і нам усім трэба стала й добра памагаць яму. Будзем жа ўсе гэта рабіць аж да канца зьдзейсьненьня ягонага Божага пакліканьня на дабро нам і ўсяму нашаму Беларускаму Народу. Нашаму Уладыцы Васілю, Архіепіскапу Віленскаму, хай дасьць Бог посьпех ува ўсім і многія годы!

Прыгожыя пісьмовыя прывітаньні прыслалі Архіепіскапу Васілю Уладыкі Андрэй і Мікалай, Царкоўная Рада БАПЦ ў Англіі, Згуртаваньне Беларусаў і Жаночае Згуртаваньне ў Канадзе, і Царкоўная Рада БАПЦ ў Дэтроіце.

Пасьля прыгожага й рачовага прывітаньня Уладыкі а. Васілём, горача прывітаў яго а. Дыякан Карп ад Беларусаў з паўдзённае часткі штату Нью Джэрзі, сярод якіх ён прабывае. Выступленьне а. Дыякана яшчэ болей узмоцніла маніфэстацыю любові й адданасьці ўсіх прысутных нашай Сьв. БАПЦаркве ды нашым Архіпастырам і Духавенству на чале з Уладыкаю Архіепіскапам Васілём.

Таму таксама прыгожа віталі Юбіляра, выяўляючы пры гэтым свае розныя думкі адносна нашых царкоўных і нацыянальных праблемаў, наступныя асобы: Сп. др. Я. Запруднік ад Сэктару Рады БНР, Сп. інж. В. Станкевіч ад Галоўнае Управы БАЗА, Сп. В. Дубяга ад Царкоўнае Рады ў Гайлянд Парку, Сп. М. Тулейка ад Аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку, Сп. Б. Даніловіч ад Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, Сп. мгр. М. Кунцэвіч ад Беларускіх Каталікоў, Сп-ня М. Васілеўская ад Жаночага Згуртаваньня ў Нью Джэрзі, Сп. Б. Данілюк ад Рэдакцыйнае Калегіі газэты „Беларус".

Асабыстыя прывітаньні зложылі: Сп. мгр. П. Манькоўскі, Сп. Ул. Русак, які парадаваў усіх прысутных прачытаньнем карэспандэнцыі аб цяпер ужо гістарычных падзеях 18-19-га сьнежня 1949 году ў Розэнгайме ў тагачаснай Беларускай газэце „Бацькаўшчына", Сп. В. Стома, Сп. П. Кажура й Сп-ня З. Станкевіч.

Між прывітаньнямі Уладыка Васіль атрымаў падарункі ад Царкоўных Радаў БАПЦ ў Нью Ёрку, Гайлянд Парку й Дэтроіце.

Тут зазначым, што некаторыя прамоўцы заклікалі да прысьпяшэньня перакладу Багаслужбаў на Беларускую мову, да хутчэйшага скліканьня Агульнацаркоўнага Сабору БАПЦ, а таксама да большае ўвагі справе навучаньня дзяцей і моладзі.

Было пастаноўлена паслаць прывітаньне Главе нашае Сьв. БАПЦарквы Архіепіскапу Сяргею.

Урэшце Уладыка Васіль выступіў з кароткаю прамоваю, у якой закрануў гісторыю Аднаўленьня нашае Сьв. БАПЦарквы ў сэнсе рэлігійным і нацыянальным, падчыркнуў сілу нашае Веры й нашага духа, злучанага з Духам Божым, ды горача падзякаваў усім будаўніком нашае Сьв. БАПЦарквы, асабліва сваім прыхажанам у Брукліне, а таксама прыхажанам у Гайлянд Парку за іхную выдатную помач і самаахвярнасьць, заклікаў усіх далей гуртавацца вакол нашае Сьв. БАПЦарквы, бо з вашаю дапамогаю, казаў ён, мы добра пойдзем наперад у разбудове Яе на Славу Бога, і на дабро й радасьць нам і ўсяму нашаму Беларускаму Народу.

На заканчэньне Сп. інж. М. Гарошка падзякаваў Уладыцы Васілю, Духавенству, прамоўцам, усім прысутным, нашым выдатным гаспадыням, якія так удала спрычыніліся да посьпеху ўрачыстасьці, і папрасіў Уладыку Васіля прачытаць Малітву. І так бяседа закончылася Малітваю „Багародзіцца Дзева Радуйся", багаславенствам Уладыкі, і нашым нацыянальным Гімнам.

**ПРЫХАЖАНІН**

## ЮБІЛЕЙ ЖЫРОВІЦКАЕ МАЦІ БОЖАЕ

Сёлета мы абходзім радасны для нас Юбілей: 500--ыя ўгодкі Аб'яўленьня Цудадзейнага Абраза Прачыстае Маці Божае ў Жыровіцах. У сувязі з гэтым нашая Сьв. БАПЦарква выдала адмысловы Юбілейны Каляндар, і гэты наш „Голас Царквы" зьяўляецца Юбілейным, таму мы выдаем яго ў крыху павялічаным размеры, і падаем тут спэцыяльны артыкул на гэтую тэму Баравіка. Гэтая праца Баравіка ўпяршыню падаецца тут да ведама нашых чытачоў. Поўнасьцю захоўваем стыль аўтара.

Гісторыя, або аповесьць розных веруючых людзей аб Цудадзейным Абразу Прасьвятое Дзевы Марыі ў Жыровіцах, згодная з фактамі, коратка апісаная, і зь вялікай працай старанна сабраная шматгрэшным Айцом Хвядосам. Просім шчыра кожнага, хто прачытае гэта, прачытаць за яго Ойча Наш.

Усяму Слонімскаму павету ведама, што каля лета Гасподняга 1470, на тым месцы, дзе цяпер ёсьць цэрквы, манастыры й нівы, даўней была пушча, у якой было шмат зьвярыны, для якое тут было пад дастаткам „жыру". Таму тое месца, магчыма, ад слова „жыр" продкі назвалі Жыравам, або Жыровіцамі, а магчыма й ад прозьвішча тамашняга жыхара, прозьвішча якога было Жыр, які тым месцам у пўшчы карыстаўся.

Да гэтае пушчы пастушкі слаўнае памяці Яго Міласьці пана Аляксандра Солтана, Рыцара Гробу Гасподняга й Падскарбнага Надворнага Вялікага Княства Літоўскага (які сабе ў караля Казімера III Ягайлавіча тыя Жыровіцы выслужыў), здарылася пасучы жывёлу аднаму з пастушкоў угледзяць на грушы, як быццам, у вагні нейкі Абраз. Ён спалохаўся, паклікаў сваіх сяброў, якія падыйшлі й гэтаксама пабачылі Абраз, і не адразу адважыліся ўзяць Яго,

а толькі тады, як вагонь той пагас, бо й яны вагонь той пабачылі. Абраз узялі й пану свайму прынесьлі, і пан узяў і схаваў Яго да шкатулы. Але Госпад Бог, Каторы, як звыкла, праслаўляе Сьвятых Сваіх, не дапусьціў Найясьнейшае Здарэньне гэтае зь Неба, нясьведамасьцю чалавечай схаваць такі скарб, або ў зямлю закапаць, але каб ён быў паказаны сьвету, і таму, без сумлеву, Абраз той з шкатулы зьнік.

Солтан-жа, жадаючы адзін раз паказаць Яго госьцям, адчыніўшы шкатулу, нічога там не знайшоў, і вельмі зьдзівіўся.

А другім разам тыя самыя пастушкі, як і раней, на тым самым месцы зноў Абраз знайшлі, і пану аддалі, і ён вельмі задумаўся, ня ведаючы, што цяпер рабіць зь Ім. Здаўшыся, аднак, на Волю Божую, паехаў ён да тае пушчы з пастушкамі, каб паглядзець на месца, на якім Абраз зьявіўся.

Прыехаўшы туды, ён зь вялікім зьдзіўленьнем думаў, што гэта азначала, што на такім звычайным месцы Абраз знаходзіўся, і праз некалькі гадзінаў на тым месцы стаяў як зачараваны, пакуль не схамянуўся, што гэта Цуд з Волі Божае.

Зараз-жа Солтан загадаў расчысьціць на тым месцы пушчу, і пабудаваць Царкву, а калі будова Царквы была закончаная, упрыгожыў той Цудадзейны Абраз каменьнямі й серабром, паставіў у Царкве, і паклікаў прасьвіцераў адправіць Багаслужбу.

Але Царква праз некольні год ад непатушанае сьвечкі згарэла, амаль уся сталася попелам, але Сьвяты Абраз і прымацаванныя да Яго таблічкі засталіся непашкоджаныя, сам Абраз зьнік і нявідзіма пе ранёсься (напэўна з дапамогаю ангелаў) на вялікі камень, які й цяпер ёсьць на тым самым месцы пад гарою, па дарозе да мураванае Царквы. А ў тым часе, калі па ўсім сьвеце пыталіся, непакоіліся й сумавалі, ня ведаючы дзе Абраз дзеўся, па нейкім часе дзеці, што ў школе вучыліся й гулялі каля пажарышча, убачылі нейкую вельмі прыгожую пані, якая стаяла на камені ў вагністым коле. Спалохаліся яны й пабеглі, і прасьвіцерам расказалі. Тыя не паверылі дзецям, і самі пайшлі паглядзець, ці гэта праўда. Калі прыйшлі на тое месца, то пані ўжо ня ўбачылі, але пабачылі на камені запаленую сьвечку, якая пасьля, калі па той Абраз з сьв Крыжамі прыйшлі, зьнікла, а стаяўшы там нерукатворны Абраз з Малітвамі узялі, і спачатку да дому прынясьлі, а пасьля зь вялікаю ўрачыстасьцю перанесьлі ў нова збудаваную Царкву, дзе Абраз праз даўжэйшы час быў, і вялікія цуды пры Ім адбываліся.

Згарэла ў Царкве й прыгожа аздобленая кніжачка, у якой усё было апісана, аб усіх здарэньнях з Абразом і з Царквою. Але таму, што многа людзей з розных краінаў прыяжджала з рознымі патрэбамі на гэтае сьвятое месца, і не маглі зьмясьціцца ў гэтай Царкве, то пасьля была збудаваная большая драўняная Царква, і Цудадзейны Абраз у яе перанесьлі.

У міжчасе Яго Дастойнасьць пан Іван Аляксандровіч Солтан, Маршал прыдворны Яго Княжае Вялікасьці, матар'ял на мураваную Царкву пільна прыгатаўляў, але не закончыўшы Яе з гэтым сьветам разьвітаўся.

А ў дадатку да ўсяго яшчэ й тое паведамляюць, што калі ўзялі Абраз з таго каменя, на ім застаўся вельмі выразны адбітак нагі й правае рукі, і гэтыя знакі былі прычынаю сталага наплыву розных людзей сюды, бо яны былі лекамі на ўсякія хваробы, і на ліхарадку.

Абраз быў каменны. Сьвятло прыцемнена, кругладоўгі, на выгляд яйка. Постаць на Ім Прачыстае Дзевы Марыі ад галавы да бёдраў выгрывіраваная, а на правай руцэ Дзіцятка Ісус у цэлым узросьце. Ад частага цалаваньня пабожнымі людзьмі Абраз часткова выгладжаны, бо аж да нашага часу Яго бяз шкла перахоўвалі. Ад абраза выходзіў вельмі прыемны пах. Наапошку трэба ведаць, што ў вачох прыдворных людзей, што былі бязглуздыя, або ў сьмяротных грахох, выгляд Абраза мяняўся, часам бываў чорны, а часам нібы чым заслонены, што некалькі такіх асобаў на сабе адчулі, і самі гэта сьцьвердзілі. Цудоўнасьць Абраза, хто меў чыстае сумленьне, адчуў, і бачыў і разумеў вялікую Ласку ад Госпада Бога за пасярэдніцтвам Валадаркі Нябеснае, і гэтую Ласку Божую мае кожны, хто на тое Сьвятое месца з шчыраю Вераю, і зь вялікаю пашанаю прыходзіць і ахвяры прыносіць. Апавядальнікамі гэтага ўсяго й сьведкамі ёсьць тыя, імёны якіх тут падаем.

Хвядос, ераманах закону сьв. Васіля, сьцьвярджаю ўласнаручным подпісам, што гэтак запраўды ад многіх людзей аб тым Сьвятым Абразу чуў, тое ўсё, што тут напісана.

Я, Ізыдар Іванавіч, сьвятар Лушнеўскі, на просьбу чэснога Айца Андрэя Бегуноўскага, які з прычыны свае старасьці ня мог сваёю рукою падпісаць, але пры поўнай памяці асьветчыў мне й чэсному Айцу Хвядосу ераманаху, які яго аб усім распытваў, што ўсё запраўды так было, як у гісторыі праз Абраз Жыровіцкае Прачыстае Багародзіцы напісана, дзеля чаго ўсё гэта я сьцьвярджаю, пішучы маёю ўласнаю рукою, року 1625, месяца ген. 3-га дня.

Я, Баўтрамей Палікарпавіч, будучы 20 лет сьвятаром Жыровіцкім, а цяпер Апольскім, вызнаю гэтым подпісам, што гэтак ад маіх продкаў чуў об Сьв. Абразу Жыровіцкім, як тут у гісторыі напісана.

Я, Мізгір, слуга шаноўнага пана Івана Мялешкі, кашталяна Смаленскага ўрадовец і старож маёмасьці й Царквы Жыровіцкае, сьцьвярджаю гэтым маім подпісам, што запраўды чуў аб тым Абразу Цудадзейным ад розных людзей так, як у гэтай гісторыі напісана. Уласная рука.

Я, Іван Талкачэвіс, урадовец Яго Міласьці пана Даніла Давідавіча Солтана, сьветчу перад усімі, што так узапраўднасьці ад прод-

каў маіх чуў аб тым Сьв. Абразу, як тут напісана. Тое самае сьцьвердзіў і Якуб Санкевіч, слуга пана Івана Аляксандровіча Солтана, і панамар Жыровіцкае Царквы.

Гэтае самае сьцьвердзілі: Рыгор Юнцэвіч з сяла Залесьсе, царкоўны Стараста ў Жыровіцах і Мікола Савіч, аканом пана Данілы Солтана. І многія іншыя аднагодна сьцьвердзілі, што ўсё так згодна з праўдаю ўпісана на вечную памяць у царкоўныя кнігі на Славу Божую й Прачыстае Дзевы Марыі.

Сабраў і падаў гэты матар'ял аб Цудадзейным Абразу Маці Божае ў Жыровіцах БАРАВІК. Апублікаваў Жуковіч у кнізе „Известія Императорской Академіи Наук", том 17, выпуск II, Санкт-Петербург, 1912 г.

Пераклад з стара-беларускае мовы зрабіў Епіскап **Андрэй.**

## З ДЗЕЙНАСЬЦІ ЕПАРХІЯЛЬНАЕ УПРАВЫ БАПЦ

Спчасная Епархіяльная Управа распачала сваю дзейнасьць пасьля 4-га Епархіяльнага Сабору, які адбыўся 30-га жніўня ў Нью Ёрку.

Галоўнаю мэтаю яе ёсьць дзеяць так, каб ня толькі захаваць усё тое, што нашая Сьв. БАПЦарква стварыла за 20 год свайго існаваньня на эміграцыі для ўмацаваньня Праваслаўных Беларусаў у Веры, нацыянальнай сьведамасьці й роднай культуры, але імкнуцца, каб уся гэтая нашая праца прынесла належны плён для нашае будучыні, для нашага маладога пакаленьня. Не існаваньне нашае ёсьць мэтаю, а існаваньне для мэты, для вышэйшага ідэалу, для выкананьня прызначанае нам Богам місіі.

Першым асноўным заданьнем новае Управы было: зьвярнуць увагу на скардынаваньне адміністрацыйнае дзейнасьці ўва ўсіх Парафіях БАПЦарквы. Дзеля гэтага быў разасланы абежнік да ўсіх Парафіяў з паведамленьнем аб асабовым складзе Епархіяльнае Управы, з просьбаю да Царкоўных Радаў падаць нам іхны склад, лік парафіянаў ды ўрэгуляваць фінансавую залегласьць за мінулыя гады.

На самым пачатку дзейнасьці Епархіяльнае Управы практыка паказала, што для разьвіцьця й поступу нашае Царквы неабходна мець і фонды, бо бязь іх Управа ня зможа належна выконваць свае заданьні, на якія чакаюць парафіяне ды Беларускае грамадзтва. Таму на першым паседжаньні Епархіяльнае Управы 9-га кастрычніка 1969 г. было пастаноўлена: увесьці ападаткаваньне для кожнае Парафіі ад агульнага гадавога абароту ў вышыні 5%, у справе фармы „Мір" паразумецца з уласьнікамі яе др. а. Віктарам адносна праўнага становішча гэтае фармы, ды прысьвяціць больш увагі на рэлігійнае ўзгадаваньне Беларускае Моладзі, а паседжаньні праводзіць у першы чацьвер кожнага месяца.



На паседжаньні 6-га лістапада 1969 г., разгледзіўшы інфармацыйны ліст скарбніка Епархіяльнае Управы а. Васіля Кендыша ў справе звароту пазыкі ў 2.000 даляраў ад рэсорту „Менск", пастаноўлена ўпаважніць а. Васіля на вядзеньне гэтае справы. У пляне найбліжэйшае працы пастаноўлена праводзіць грашовыя зборы на кожнай урачыстасьці, узнавіць акцыю місыйнага фонду, зьвяртаючыся пераважна да тых, што яшчэ не адгукнуліся на заклік у справе Фонду.

На паседжаньні 4-га сьнежня паўстала прапанова абвесьціць 1970 год годам Беларускае Моладзі, і правесьці акцыю збору Калядных падарункаў на карысьць БАПЦарквы. У гэтай справе былі разасланыя да Парафіяў і паасобных Беларусаў спэцыяльныя канвэрцікі, прывітальныя карткі, і далучаны заклік з выясьненьнем, на якія мэты акцыя зборкі праводзіцца. Тут зазначаем, што гэтая акцыя ўжо дала пазытыўны вынік: ладная частка нашых суродзічаў адгукнулася на наш заклік, а ў некаторых асяродках зборкі яшчэ праводзяцца.

Адначасна ўкладаецца плян дзеля адзначаньня Вялікага Юбілейнага Місыйнага Году: 500-ыя ўгодкі зьяўленьня Прачыстае Маці Божае ў Жыровіцах. Гэты Юбілей ужо перад намі. Гэты Год павінен быць місыйным, каб ахапіць усе мясьціны, дзе ёсьць нашыя суродзічы: ад сям'і да сям'і, ад душы да душы зь місыяй Веры Праваслаўнай, зь місыяй Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, зь місыяй да Беларускае Моладзі, такая нашая праца ў гэтым годзе. Гэта толькі частка нашае плянавае працы. У гэтым Юбілейным Годзе мы павінны разьвярнуць асаблівую творчую працу ў галіне рэлігі, навукі й культуры, бо толькі такою працаю мы пяройдзем ад самазахаваньня да зьдзейсьненьня мэты нашага існаваньня на эміграцыі.

Пастанова аб праводжаньні зборак ахвяраў на мэты БАПЦ на кожнай ладжанай імпрэзе таксама не засталася голасам гукаючага ў пустыні: гэтак 23-га лістапада на Абедзе Дня Ўдзячнасьці было сабрана на Фонд 36,20 даляраў.

Дня 25-га студзеня захадамі сяброў Епархіяльнае Управы была зарганізаваная „Калядная Імпрэза", якая прыпамінала нам зборку аднае Беларускае сям'і. На гэтай імпрэзе прысутныя мелі нагоду ня толькі спажыць старанна прыгатаваны багаты абед, але й прыпомніць Калядныя Абрады нашага слаўнага Беларускага Народу, якімі ён вельмі багаты. Прыгожа награныя на кружэлках Беларускія песьні праз увесь вечар весялілі прысутных сяброў і госьцяў.

Усім арганізатарам гэтае імпрэзы нашая шчырая падзяка ня толькі за ўдалае правядзеньне яе, але й за рупны дагляд, у выніку якога каса Епархіяльнае Управы добра ўзмоцнілася.

**Епархіяльная Управа**

## СЛУЖЭНЬНЕ НАРОДУ
## Э. КАНТ і Ф. ШЭЛЬЛІНГ

У мінулым нашым артыкуле на гэтую тэму мы ўжо пазналі, што Э. Кант быў веруючым чалавекам, і навукова даказаў існаваньне Бога, несьмяротнасьці душы й жыцьцё вечнае. Яшчэ раз кажам: для звычайнага пабожнага чалавека непатрэбныя ніякія навуковыя доказы існаваньня Бога й несьмяротнасьці душы. Для яго тут даволі Сьв. Пісаньня й Адкрыцьцяў Божых, таму ён верыць перадусім сваім чыстым сэрцам, сваёю душою. Аднак, у нашыя бязбожныя часы, калі чырвоныя багаборцы стараюцца даказаць, што навука супраць Веры й Рэлігіі, што яна не прызнае Бога, і гэтым уводзяць многіх у спакусу-блуд ня толькі ў сваёй турме народаў, але й у вольным сьвеце, для нас вельмі важна вуснамі самых найбольшых вучоных-філезафаў адкінуць гэтую згубную ілжу, разьвеяць гэтую цемру. Гэта для нас патрэбна, падругое, і з такіх практычных меркаваньняў: як збудаваць сваю Беларускую Дзяржаву, каб яна была сталым дабрадзействам для нашага Народу й ягоных нашчадкаў.

Вось чаму мы й знаёмімся з навуковымі цьверджаньнямі найбольшага філёзафа апошніх двох стагодзьдзяў: Э. Канта. Ён быў тым магутным філязофскім дрэвам, галінамі якога пасьля сталіся: Фіхтэ, Шэльлінг, Гегель, Шопэнгаўэр, гаворачы толькі пра выдатнейшых зь іх. Кант працаваў у 18-м стагодзьдзі, а вучні яго ў 19-м. Кант стварыў тэорыю трансцэндэнтнага ідэялізму, а таксама й рэлігійную філязофію, і вучні яго, асабліва Шльлінг, многа спрычыніліся да разьвіцьця філязофіі Рэлігіі, уважаючы за аснову яе, як і Кант, мараль і этыку, як неабходныя прынцыпы для духовага прагрэсу.

Уплыві Канта й Шэльлінга былі тады вельмі вялікія па ўсёй Эўропе, і тут была адна з прычынаў, чаму фальшывая філязофія Маркса й Энгельса не знайшла для сябе належнае глебы ў Нямеччыне й Эўропе. Бязумоўна, уплыў філязофіі Канта й Шэльлінга, асабліва рэлігійнае, пранік і ў тагачасную Расею. У 19-м ст. тут зьявіўся шэраг такіх людзей як Адаеўскі, Чаадаеў, Хамякоў, Аксакаў, Кірэеўскі, Самарын, а пасьля й Ул. Салаўёў, якія захапіліся гэтаю ідэалістычнаю рэлігійнаю філязофіяй, і з дапамогаю яе пробавалі ратаваць хворую Расею. Да іх далучыліся й некаторыя пісьменьнікі, асабліва Дастаеўскі. Але, як ведаем, многія зь іх, у тым ліку й Дастаеўскі, заплацілі за гэта гадамі турмы. Расейскія рэакцыйныя колы баяліся навет ідэалістычнае ды рэлігійнае філязофіі, бо самае слова „філязофія" палохала іх. Але, Расея была духова цяжка хворая, і вылячыць яе ніхто ня мог, тым болей, што Расейская Праваслаўная Царква была на службе царызму, як



зрэшты й цяпер.

Да гэтага мы яшчэ вернемся, а цяпер пяройдзем да Э. Канта, дзе таксама пабачым, чаму ягонае, навет рэлігійнае філязофіі баяліся ў Расеі як царскія, так і царкоўныя колы. Як мы ўжо ведаем, Э. Кант стварыў тэорыю ня толькі Чыстага (тэаратычнага), але й Практычнага Розуму. Пад апошным ён разумеў навуку як для грамадзкага, так і дзяржаўнага жыцьця. Ягоны Катэгарычны Імпэратыў казаў: рабі так, каб кожны твой чын мог стацца законам-правілам для ўсіх. Гэта, казаў ён, наш маральны абавязак, як аснова нашага дасканаленьня, нашага духовага прагрэсу. Толькі такім чынам людзі й народы могуць дайсьці да ўсечалавецтва, або як Вера й Рэлігія кажуць: Валадарства Божага, якое Кант уяўляў сабе як фэдэрацыю ўсіх свабодных, незалежных народаў-дзяржаваў. У гэтым, паводле Канта, палягае прагрэс сусьветнае гісторыі, што пасьля Гегель сфармуляваў так: Сусьветная гісторыя гэта прагрэс у асэнсаваньні свабоды, і збудаваў на гэтым прынцыпе сваю ідэялістычную дыялектыку.

Асноваю дзяржавы, казаў Кант, мусіць быць справядлівасьць, адпавядаючая здароваму розуму. Такіх дзяржаваў яшчэ няма, але яны мусяць быць. Толькі справядлівасьць і свабода ў дзяржаве могуць стварыць асновы для ўсякага прагрэсу й вышэйшага дабра. Аднак, і гэтых двох мамэнтаў яшчэ мала, неабходны яшчэ й трэйці, а гэта: мараль. Таму чалавеку мала быць асьвечаным, яму неабходна быць яшчэ й маральным, бо толькі мараль, як дабрата, сьвеціць аб запраўднай годнасьці й дасканаласьці чалавека. У такой маральна-этычнай дзяржаве законы пануюць без ніякага прымусу. Гэта раз, а два, яны сталыя, нязьменныя, заўсёды тыя самыя, бо творцам іх ёсьць не чалавек і не народ, а маральны Законадаўца сьвету: Бог! Маральна-этычная дзяржава гэта Валадарства Божае, і грмадзяне яе — народ Божы! Такая дзяржава ёсьць адначасна й ЦАРКВОЮ, і толькі такая бачаная Царква знаходзіцца ў гармоніі з Царквою нябачанаю: Нябеснаю (Рэлігія, т. 6, бачч. 264-268).

Нажаль, кажа Кант, раўналегла з нашым культурным прагрэсам і нашай сацыяльнай цывілізацыяй ня йдзе рука ў руку нашае маральнае-этычнае разьвіцьцё. Наадварот, мы бачым тут нешта зусім іншае: з павялічэньням нашых сацыяльна-матар'яльных багацьцяў усё болей выступаюць эгаізм, самалюбства, сваркі, расклад. Тут як мак цьвітуць такія дыявальскія няцноты: нянавісьць, зайздрасьць, наўдзячнасьць, гнеў, злосьць, ачарняньні, ілжа й г. д. Выкараніць такія няцноты ня можа ніякі дзяржаўны закон, ніякае грамадзка-дзяржаўнае права. Гэта можа зрабіць толькі маральна-этычная дзяржава, як Царква, як маральнае Валадарства Божае на зямлі. Бо, каб выкараніць усе гэтыя злыя няцноты, ад якіх паўстаюць многія беды, неабходна ачысьціць сэрцы, каб такім чы-

нам у дзяржаве, сярод усіх людзей, запанавала жаданьне рабіць толькі дабро сабе й іншым. Для асягненьня гэтага ідэалу людзей і народаў-дзяржаваў неабходным ёсьць зразуменьне Адкрыцьцяў Божых, пазнаньне Навукі Сына Божага, Хрыста, належнае рэлігійнае ўзгадаваньне ад малога. Бо, кажа Кант, як бачаная Царква адносіцца да нябачанай, так і нашая гісторыя культуры адносіцца да свабоды, справядлівасьці й маральнае мэты чалавецтва, а наш сьвет пачуцьцяў да сьвету надпачуцьцёвага, ідэальнага (Фізыч. Геаграфія, т. 4, бачч. 247, 347).

Бо, кажа Кант далей, згодна з законамі нашага розуму, мы павінны ўяўляць сабе матар'яльны сьвет у мэханічным разьвіцьці, жывёльны сьвет у арганічным, а чалавецтва ў маральным разьвіцьці. Чалавек, які падпарадкуецца маральным законам, ведае мэту свайго жыцьця. Таму ў сусьвеце мусіць быць маральны правапарадак, і таму таксама мусіць быць і творца гэтага парадку, або першапрычына ўсяго, якая ня можа быць нічым іншым, як тварачаю сусьвет Воляю, Богам. Таму Ён адзіны, запраўдны Законадаўца (Крыт. Рассудку, т. 3, разьдзел 7).

Гэтыя, ды некаторыя іншыя думкі Канта, шырэй апрацаваў і папулярызаваў Шэльлінг. Таму нам тут будзе цікава пазнаёміцца з тымі зь іх, якія адносяцца да нашае тэмы.

Ён кажа: Чым далей разьвіваецца сьвет, тым ясьней і шырэй раскрываецца тоесамасьць законамернасьці й свабоды, тым болей узмацняецца парадак у чалавечым сьвеце, тым болей абмяжоўваецца свавольства індывідуальнае волі. Гэта й ёсьць паступовае разьвіцьцё чалавецтва, якое праходзіць шлях Адкрыцьцяў Абсалютнага Духа, што й зьяўляецца бясспрэчным доказам існаваньня Бога.

У сьведамасьці чалавека існуюць тры ступені разуменьня гэтае Боскае сілы, і яе адкрыцьця ў сьвеце. Папершае, можна сьцьвярджаць існаваньне гэтае сілы ў прыродзе зь яе нясьведамаю законамернасьцю, і прыраўноваўць яе Боскую аснову да сьляпога кону. Гэта думка фаталістаў. Падругое, прызнаючы сваю неабмяжаваную волю й поўную свабоду, чалавек можа адкінуць вышэйшую сілу й яе законы. Гэта думка атэістаў. Абедзьвія гэтыя думкі фальшывыя ,і паўстаюць яны дзеля засьлепленага, абмяжаванага розуму. Праўду мае трэйцяя думка, якая бачыць у Богу пагадненьне неабходнасьці з свабодаю, сілу, якая ўсё болей раскрываецца нам, як плянавае й законамернае разьвіцьцё сьвету. Тут Абсалютнае разглядаецца не як кон, а як Провід. Гэта думка Рэлігіі, і запраўднае навукі-філязофіі.

У гісторыі, як паступовым Адкрыцьці Бога, можна бачыць тры эпохі. У першай пануе кон, у другой закон, а ў трэйцяй Провід.



Панаваньне кону мае трагічны характар, панаваньне закону мэханічны, а панаваньне Провіду рэлігійны характар. Трагічная эпоха гэта старадаўні культурны сьвет, упадак тых вялікіх дзяржаваў, ад якіх засталіся толькі руіны. Эпоха мэханічнага панаваньня закону гэта Рымская імпэрыя. Трэйцяя эпоха гэта час, калі сіла, што пануе ў гісторыі, выявіцца ясна як Провід. Мы гэтага часу яшчэ ня маем. Калі ён пачнецца, мы ня ведаем. Але калі ён пачнецца, тады ясна зьявіцца Сам Бог (Тры эпохі, т. 3, бачч. 597-604).

З апошнім мы з Шэльлінгам пагадзіцца ня можам, бо ўжо даўно перад ім усе пабожныя людзі ясна бачылі й разумелі ў жыцьці нашым Провід Божы. Калі гэтая эпоха завяршыцца: зьявіцца Сам Бог, Хрыстос зноў на зямлі, гэта ўжо іншае пытаньне. Мы тут толькі разумеем думку Шэльлінга, як пратэстанта, а гэта: 1000-летняе Валадарства Хрыстовае на зямлі, якое Шэльлінг лічыць сваёю трэйцяю эпохаю.

У сваіх лекцыях Шэльлінг кажа: Чалавецтва й ягоная гісторыя мусяць мець канчатковую мэту. Такою мэтаю можа быць толькі поўнае запанаваньне Хрыста ў сьведамасьці й жыцьці людзей. Гэта станецца тады, калі ўсе ворагі Яго будуць паложаныя да падложжа ног Яго. Тады Вера ў Хрыста Бога станецца поўнаю й непарушнаю. Ад гэтае мэты чалавецтва яшчэ далёка.

Што Сам Хрыстос сказаў: Безь Мяне вы нічога добрага ня зробіце" (Io. 15, 5), гэта для нас ясна й зразумела, бо для нас Ён ня толькі дасканалы Чалавек, але й запраўдны Бог. Што Сьв. Пісаньне, асабліва Сьв. Евангельля ды Пасланьні Апосталаў гэта нам розным спосабам пацьвярджаюць, гэта для нас таксама зразумела, бо гэта Праўда Божая. Але, вось, вучоны, філёзаф таксама сьцьвярджае, што мэтаю нашага жыцьця ёсьць: поўнае запанаваньне Хрыста ў сьведамасьці людзей! Такім чынам самыя вучоныя даюць нам зброю супраць фальшывых ды ілжывых цьверджаньняў сучасных страшных багаборцаў, ворагаў чалавецтва, што навука супраць Бога, Веры э Рэлігіі.

Мы ўважаем, што ўжо даволі доказаў мы тут прывялі як збоку Сьв. Пісаньня, Багасловія, так і збоку навукі, філязофіі адносна нашага жыцьця, нашых мэтаў, і спосабаў грамадзкага й дзяржаўнага ладу, каб ужо канкрэтна падыйсьці да разгляду нашага дзяржаўнага будаўніцтва, спосабаў жыцьця ў нашай Вольнай Беларусі. Аб гэтым мы й будзем гаварыць у наступных нумарох „Голасу Царквы".

**С. КЛІМ**

(Далей будзе)

## ДЗЕЙНАСЬЦЬ БЕЛАРУСКАГА МІТРАПАЛІТА ЯЗЭПА II СОЛТАНА

Пеерад Берасьцейскай вуніяй сярод Беларускіх Мітрапалітаў, якія адначасна займалі й Кіеўскую Катэдру з тытулам „Мітрапаліт Кіеўскі й усяе Русі", выдатным сваёю рэлігійнаю дзейнасьцю быў Мітрапаліт Беларускае Праваслаўнае Царквы Язэп II Солтан. Ён значна спрычыніўся да разбудовы Беларускае Мітраполіі й умацаваньня Праваслаўнае Веры ў Беларусі.

Мітрапаліт Язэп Солтан паходзіў з выдатнага Беларускага баярскага роду Солтанаў і быў сваяком Беларускіх Праваслаўных Князёў: Чартарыскіх, Тышкевічаў, Гарнастаяў і інш. Сваю дзейнасьць ён распачаў як урадовец, але хутка прыняў манаства й неўзабаве быў хіратанізаваны ў Епіскапа Смаленскага. У 1507 годзе, на жаданьне Духавенства, караля Жыгімонда й вернікаў ён быў пастаўлены Мітрапалітам „Кіеўскім і усяе Русі".

На гэтым становішчы ён адзначыўся сваёю самаахвярнаю працаю, вялікай любоўю да свайго Беларускага Народу, і ўдалым кіравецтвам Мітраполіяй. Як кароль, так і Праваслаўныя Беларусы вельмі шанавалі яго. Царгародзкі Патрыярх даў яму сваё багаславенства, і ўважаў яго найдастойнейшым Мітрапалітам.

У часе свайго 14-цігадовага служэньня ён пабудаваў некалькі дзесяткаў Цэркваў і Манастыроў у Беларусі. Дзякуючы сваёй адданай і плённай працы, ён меў вялікі ўплыў на караля Жыгімонда, які ахвотна палагоджваў ягоныя просьбы, і такім чынам спрычыніўся да ўзмацненьня становішча й павагі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, на Украіне ды ў іншых краінах.

Але найважнейшаю памяткаю дзейнасьці яго былі „Дзеяньні" Царкоўнага Сабору, які адбыўся ў Вільні ў 1508-1509 гадох, пастановы якога тут у скарочаньні падаем. Нарады Сабору пачаліся 25 сьнежня 1508 г., а скончыліся 18 студзеня 1509 г. У Гісторыі Царквы Сабор гэты адзначаны як Віленскі Сабор 1509 г.

Прадмова да „Дзеяньняў" Сабору напісаная самым Мітрапалітам, і прыпамінае нам цяперашнія часы. У прадмове паданыя матывы скліканьня Сабору, у якіх ён выказвае сьведамасьць свайго Архіпастырскага абавязку на становішчы Мітрапаліта так: „Усякую непаслухмяннасьць і парушэньне нашага Праваслаўнага закону хрысьціянскае Праваслаўнае Веры належыць адкідаць, а прызнаваць і выпраўляць Божыя Праваслаўныя законы згодна даўнейшага звычаю Айцоў. Тыя сучасныя адхіленьні, нялады ды бязьдзейнасьць у царкоўным жыцьці, сьведамыя й нясьведамыя, за якія Бог карае людзей Сваіх, унармаваць".



Аб усіх народных бедах Мітрапаліт казаў: „Ці не расьцярушыў нас Бог па твару ўсяе зямлі? Це не забраныя ад нас месты нашыя? Ці ня ўпалі ад вастрыя мяча моцныя князі нашыя? Це не апаганеныя Сьвятыні Божыя — Цэрквы? Ці ня цэрпім мы кожнага дня ад бязбожных агаран? Усё гэта сталася з намі таму, што ня згодна з правіламі сьвятых Апосталаў і пастановамі сьвятых і прэпадобных Айцоў нашых мы паступаем".

Там-жа паданы й склад удзельнікаў Сабору. Апрача Мітрапаліта на ім былі прысутныя ўсе тагачасныя Епархіяльныя Епіскапы: Арсені, епіскап Тураўскі й Пінскі; Еўфімі, еп. Полацкі й Віцебскі; Варсанафі, еп. Смаленскі; Васіян, еп. Уладзімірскі й Берасьцейскі; Кірыла, еп. Луцкі й Астрожскі; Антон, еп. Перамыскі; Філарэт, еп. Холмскі. Былі прысутныя сем Архімандрытаў, Настаяцеляў Манастыроў, шэсьць Ігуменаў, сем Пратапопаў, і чэсныя Айцы, колькасьць якіх не паданая. Пра ўдзел у Саборы міран не гаворыцца, але клір і манахі пераліچаныя поўнасьцю, што гаворыць пра выдатную ролю ў царкоўна-грамадзкім жыцьці нашых манастыроў тады.

Усіх пастановаў Сабору, якія ў „Дзеяньнях" называюцца правіламі, было 15, зь якіх пазнаем, што тады найбольш далягала жыцьцю нашае Праваслаўнае Царквы.

Першыя тры правілы Сабору скіраваныя супраць злаўжываньняў пры назначэньнях на Епіскапскія Катэдры й сьвятарскія становішчы. Тут Сабор асудзіў куплю Катэдраў ў караля, паноў, або ў самых Епіскапаў ды займаньне тых Катэдраў бяз волі й ведама Мітрапаліта й Сабору Епіскапаў. Вось-жа, Сабор асудзіў куплю Катэдраў за грошы, дзеля свае нажывы, улады й людзкое славы. Тое самое датычыла й становішчаў Архімандртаў і Сьвятароў. Сабор пастанавіў адлучаць тых, хто такім неканнанічным спосабам здабудзе Катэдру, або іншае царкоўнае становішча.

У чацьвертым правіле падаюцца распараджаньні адносна дысцыпліны й царкоўнага суду. У пятым гаворыцца аб непаслухмяных і забараняецца Епіскапам прыймаць сьвятароў з другое Епархіі без Адпускное Граматы свайго Епіскапа.

Шостым правілам Сабор забараніў усім удаўцом, сьвятаром і дыяканам, выканваць Службы Божыя, калі-б хто парушыў гэтае правіла, Мітрапаліт мае пазбавіць яго сану, а калі-б ён гэтага не зрабіў, то мы, Епіскапы на Саборы пазбавім яго самога сану. Гэтая пастанова была выкліканая немаральнымі паводзінамі тагачаснага аўдавелага духавенства.

Сёмым правілам Сабор пастанавіў, каб ігумены й сьвятары

ня былі пазбаўленыя сану Епіскапамі без належных прычынаў.

У правілах 8-11 Сабор рашуча выступіў супраць практыкі „паноў-патронаў" прадаваць царкоўныя становішчы. Правіла 12 забараняе манахам пераходзіць з аднаго манастыра ў другі без дазволу Ігумена. Правіла 13 забараняе вернікам карыстацца зборнікам царкоўных правілаў (Кормчая Кніга) таму, што яны належна не разумеючы іх, абражаюць сьвятароў, самі сабе законам бываюць. Епіскап, які ўнікае ўдзелу ў Акруговых Саборах, дзеля сваіх мірскіх справаў, згодна з правілам 14, падлягае разгляду Епархіяльнага Епіскапа ў згодзе з правіламі Айцоў.

Апошняе правіла 15 гаворыць аб абавязку прыняцьця ўсіх пастановаў усімі Епіскапамі Беларускае Праваслаўнае Царквы, і гэта забавязвае таксама й іхных наступнікаў.

Як бачым, на пачатку 16-га ст. былі вялікія непаладкі ў тагачасным царкоўным жыцьці, і яны пагражалі існаваньню Царквы, таму Саборы Епіскапаў стараліся лячыць гэтыя хваробы. Гэта пачаў рабіць ужо Віленскі Сабор, склікаены руплівым Мітрапалітам Язэпам Солтанам.

Ён склікаў яшчэ два памесныя Саборы ў 1510 й 1514 гадох. Нажаль, аб іхнай дзейнасьці няма дакладных даных. Пра Сабор 1510 г. даведваемся толькі з Граматы Мітрапаліта манастыру ў Супрасьлі 5-га лютага 1510 г., дзе зазначана, што на Саборы гэтым ён сам быў. Адтуль-жа даведаемся, што на Саборы былі таксама Епіскапы: Смаленскі, Пінскі, Уладзімірскі з „Архімандрытамі й чэсным клірам" ды быў прысутны Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха сьв інок ФІЛІППОС. Галоўнаю мэтаю Сабору 1514 г. была кананізацыя прэпадобнага Елісея Лаўрышаўскага.

**Сабраў і апрацаваў Епіскап АНДРЭЙ**

## ХРОНІКА

НЬЮ ЁРК. АБХОД З КРАШЧЭНСКАЮ Сьв. ВАДОЮ. Мы горача дзякуем Госпаду Богу, што ў сваёй практыцы пазнаем вялікую вартасьць традыцыяў і звычаяў нашае Сьв. Праваслаўнае Царквы. Такою слаўнаю традыцый нашай і тут на Чужыне ёсьць Абход з Крашчэнскаю Вадою. Сам Хрыстос, Бог наш, дабравольна выканаў абрад Хрышчэньня ў водах Іардану, і такім чынам Сваім Прачыстым Целам асьвяціў воды гэтыя. І наша Сьв. Царква малітвамі сьв. Айцоў сваіх, асьвячае ваду на Вадохрышча, калі Хрыстос Духам Сваім Сьвятым перамяняе яе ў Сьв. Ваду Іарданскую, поўную Сілы й Ласкі Яго для асьвячаньня нашых дамоў, для нашага здароўя духовага й цялеснага, а гэта-ж дабро й радасьць нашая!

Тым болей, што Сам Хрыстос сказаў: Дзе двое ці трое зьбяруцца ў імя Маё, там і Я пасярод іх! А дзе Ён, Бог і Спас наш, там і Неба на зямлі! І гэтую радасьць Нябесную перажывалі нашыя пабожныя прыхажане, калі Уладыка Васіль прыходзіў да іх з Крашэнскаю Сьв. Вадою, а зь Ёю прыходзіў да іх і наш найдаражэйшы Госьць Нябесны, Хрыстос! Так, усе радаваліся, горача дзякавалі Яму, Айцу нашаму Нябеснаму, нашай Сьв. БАПЦаркве, Уладыцы Васілю й тым, што суправаджалі яго: Сп-м Б. Данілюку, М. Тулейку, П. Манькоўскаму, Сп-ні А. Романо й Сп-шні Г. Орса.

Бязумоўна, дзякавалі ня толькі словамі ды гасьцінаю, але й шчодрымі ахвярамі на нашую Сьв. БАПЦаркву. Слава Госпаду й Спасу нашаму Ісусу Хрысту, нашай Сьв. БАПЦаркве, нашаму Духавенству, успомненым асобам, і ўсім пабожным вернікам нашым.

Гэтую самую радасьць мелі нашыя прыхажане й ува ўсіх нашых Парафіях. У Паведамленьні Парафіі нашае Сьв. Царквы ў Торонто гаворыцца: Дарагія Суродзічы! Парафіяльная Рада Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто дзякуе Вам, усім тым, хто цяпер прыняў Уладыку Мікалая й прат. а. Міхаіла Мігая з Сьв. Вадою. Мы дзякуем таксама Вам за Вашыя ахвяры, зложаныя на нашую Царкву пры Абходзе з Крашчэнскаю Сьв. Вадою.

Парафіяльная Рада шчыра дзякуе й тым парафіянам, якія не пашкадавалі ані часу ані сваіх аўтаў, безінтэрасоўна вазілі прат. а. Міхаіла ў дамы нашых парафіянаў з Сьв. Вадою ў Торонто..

Асаблівa ў гэтым годзе нашыя суродзічы шчыра адгукнуліся на патрэбы нашае Парафіі сваімі шчодрымі ахвярамі. Яны ўсюды міла й сардэчна віталі Уладыку Мікалая й а. Міхаіла з Сьв. Вадою ў сваіх дамох.

Нашыя парафіяне ў Торонто міла й горача прывіталі прат. а. Міхаіла Мігая зь ягоным пераходам да нас. Цяпер а. Міхаіл служыць у нас разам з Уладыкаю Мікалаем, і мы спадзяемся, што неўзабаве ён поўнасьцю увойдзе ў нашае царкоўнае жыцьцё, і магчыма станецца нашым Настаяцелям. Зазначаем тут, што прат. а. Мігай на пачатку 50-х гадоў быў Настаяцелем беларускае Парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкае Грэцкае Праваслаўнае Царквы, а цяпер ён сказаў Уладыцы Мікалаю: Я прышоў да вас, каб у канцы жыцьця майго паслужыць сваёй роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, і свайму Беларускаму Народу.

Дня 10-га студзеня ў нашай залі была ўладжаная Ялінка для дзяцей. Яны радасна спаткалі Дзеда Мароза, атрымалі ад яго прыгожыя падарункі ды танцавалі й сьпявалі разам зь ім, а пасьля ласаваліся рознымі прысмакамі, прыгатаванымі спэцыяльна для іх.

У суботу, 24-га студзеня, Уладыка Мікалай ахрысьціў маленькую Зосю, дачку Марыі, з дому Прускіх, і Аўгена Гарбачовых у Дэтроіце. Няхай Бог пашле маленькай Зосі шчасьце й добрае здароўе на СТО ГОД!

Парафіяне Парафіі Сьв. Духа БАПЦ ў Дэтроіце моцна наважыліся прыдбаць свой будынак для рэлігійна-грамадзкіх мэтаў. Уважаем, што ўжо летам яны ўрэчаісьняць гэтую сваю мрою. Дай Божа!

У Нядзелю, 22-га лютага, Уладыка Мікалай адправіў там Службу Божую ў доме Сп-ва Кумэйшаў. Так здарылася, што пару дзён раней маці й старэйшы сын яе, ды бацька й сын Плескачы мелі дні сваіх уродзінаў. Усе горача віталі Юбілянтаў і ня раз прасьпявалі ім МНОГІЯ ЛЕТА!

САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў НЬЮ ЁРКУ. Яны адбыліся тут 22-га сакавіка. Урачыстую Службу Божую адправіў Уладыка Васіль у асысьце а. Віктара й а. дыякана Карпа ў нашым Катэдральным Саборы

Сабор быў запоўнены вернікамі, бо на гэтую ўрачыстасьць прыбылі вернікі ня толькі зь Нью Ёрку й ваколіцаў, але й вялікая грамада зь Нью Брансьвіку з сваім Хорам. Таму вельмі прыгожа пяяў узмоцнены Хор пад кіравецтвам Сп. А. Каптуровіча. Усе горача маліліся й натхнёна дзякавалі Богу за наш векапомны Акт 25-га Сакавіка, і Уладыка Васіль радасна вітаў усіх з гэтым нашым велічным Сьвятам. У сваёй пропаведзі на тэму: Вера горы перастаўляе, ёў сьцьвердзіў, што як Акт 25-га Сакавіка, так і Аднаўленьне нашае Сьв. БАПЦарквы сталася з Волі Божае, таму Хрыстос, Бог наш, быў і ёсьць з намі! І цяпер Ён прамаўляе да нас: Толькі веруйце, і сонца Праўды й Свабоды Мае зазьзяе ў вашай Беларусі! У гэта мы цьвёрда верым, і гэтаяВера нашая пераставіць гару нашае апошняе няволі!

Служба Божая закончылася Малебнам Падзякі Богу, Многалецьцямі нашай Сьв. БАПЦаркве, Яе Іерархам, Духавенству, усім вернікам, нашаму Вялікаму Беларускаму Народу, Беларускай Народнай Рэспубліцы, Прэзыдэнту й Ураду Яе, усім змагаром нашым, ды гімнам „Магутны Божа".

Пасьля адбылася ўдалая Акадэмія ў гатэлі Балцімор, дзе было звыш 300 асобаў. Акадэмія пачалася Амэрыканскім Гімнам у выкананьні Сп-ні Маркоўскай пад акампаньямэнт Сп-ні Праф. Э. Зубковіч, пасьля Малітваю й багаславенствам Уладыкі Васіля. Прысутныя адказныя Амэрыканскія ды многія прадстаўнікі паняволеных народаў горача віталі наш Беларускі Народ з Актам 25-га Сакавіка й жадалі Свабоды Беларусі! Акадэміяй кіраваў Сп. др. Я. Запруднік. Зьмястоўныя рэфэраты прачыталі: па-ангельску Сп. др. Р. Гарошка, па-беларуску Сп. др. С. Станкевіч. Прыгожая была мастацкая частка. Была прынятая Рэзалюцыя. Акадэмія закончылася Беларускім Нацыянальным Гімнам.

26-27-га сакавіка адбылася Нарада Епіскапаў БАПЦ, дзе былі разглянутыя розныя царкоўныя справы й прынятыя адпаведныя пастановы.

✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥

Высокапрэасьвяшчэньнейшых Уладыкаў нашых, Архіепіскапаў СЕРГІЯ й ВАСІЯ, Прэасьвяшчэньнейшых Епіскапаў АНДРЭЯ й МІКАЛАЯ, Мітрафорных Пратаіерэяў, Пратаіерэяў, Айцоў, дастойных Рэгентаў і Харыстых, Хвальныя Царкоўныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы, дзяржаўныя, навуковыя й грамадзкія Установы, чытачоў „Голасу Царквы", усіх вернікаў Сьв. БАПЦарквы, і ўвесь наш Вялікі Беларускі Народ сардэчна вітае з радасным Вялікаднем:

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**Епархіяльная Управа БАПЦ Амэрыкі й Канады**

✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥✥